Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

# БЮЛЯТЭНЬ НАРОДНЫХ КАМІСАРЫЯТАЎ І ЦЭНТРАЛЬНЫХ УСТАНОЎ БЕЛАРУСКАЙ ССР

Выдаецца Кіраўніцтвам Спраў СНК і Эканамічнага Савету БССР
г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3. — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.
VIII-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 5 (127) | 12 красавіка 1932 г. | № 5 (127)

## ЗЬМЕСТ.





## Пастанова Эканамічнага Савету БССР.

### 15. Пра ліміты кошту аднаго кубамэтра непрамысловага будаўніцтва ў 1932 г.

Эканамічны Савет БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць наступныя ліміты кошту аднаго кубамэтра непрамысловага будаўніцтва:

а) для звычайных цагляных шматпаверхавых будынкаў з агнятрывалым дахам на каменным падмурку з драўлянымі паміжпаверхавымі перакрыцьцямі апроч пямяшканьняў, якія паводле будаўнічых правіл павінны абавязкова перакрывацца агнятрывалымі перакрыцьцямі, з пячным ацяпленьнем і ўнутранай атынкоўкай без вадаправоду і каналізацыі—22 руб. кб. мэтр;

б) для будынкаў дрыўляных (каркасных) з агнятрывалым дахам на каменным падмурку з пячным ацяпленьнем без вадаправоду, каналізацыі і ўнутранай і знадворнай атынкоўкі сьцен—у гарадзкой мяжы—17 руб. 50 кап., у іншых мясцовасьцях—16 руб. 50 кап.

2. Забараніць усім арганізацыям у дагаварох, заключаемых на будаўніцтва, устанаўляць іншы кошт аднаго кубамэтра.

3. Даручыць Дзяржпляну ў разьвіцьцё гэтай пастановы на працягу 3-х дзён устанавіць:

а) якія выдаткі ўваходзяць у асноўныя ліміты,

б) процант надбаўкі да асноўных лімітаў альбо зьніжэньне іх у залежнасьці ад тыпу і характару будаўніцтва (вадаправод, ацяпленьне);

в) тэхнічнае апісаньне работ па непрамысловаму будаўніцтву.

Старшыня Эканамічнага Савету БССР **М. Галадзед.**

Кіраўнік Спраў СНК і ЭКАСА БССР **С. Кандыбовіч.**

2 красавіка 1932 г.
№ 54.

## Інструкцыя Дзяржаўнай Плянавай Камісіі пры СНК БССР.

### 16. Пра ўжываньне лімітаў кошту аднаго кубамэтра непрамысловага будаўніцтва на 1932 год.

#### А. Асноўныя ліміты.

На падставе пастановы Эканамічнага Савету БССР за 2/IV-1932 г устанаўляюцца наступныя ліміты кошту аднаго кубамэтра непрамысловага будаўніцтва па БССР на 1932 год і правілы іх ужываньня:

1) Для рабочага жыльлёвага будаўніцтва ўстанаўляюцца наступныя ліміты кошту 1 кубамэтра будынкаў:

а) для звычайных цагляных шматпаверхавых будынкаў з агнетрывалым дахам, на каменным падмурку, з драўлянымі паміжпаверхавымі перакрыцьцямі, за выключэньнем памяшканьняў, у якіх паводле будаўнічых правіл павінны быць агнетрывалыя перакрыцьці, без вадаправоду і каналізацыі, з пячным ацяпленьнем і ўнутранай атынкоўкай;

б) для будынкаў драўляных (каркасна-засыпных) з агнетрывалым дахам, на каменным падмурку, з пячным ацяпленьнем, без вадаправоду і каналізацыі, без унутранага і знадворнага атынкаваньня сьцен:

| Месца пабудовы | Каменныя | Дрыўляныя (каркасы) |
|---|---|---|
| | Руб. | Руб. |
| 1. У гарадзкой мяжы . . . . | 22 | 17,5 |
| 2. У інш. мясцох . . . . . | 22 | 16,5 |

*Увага.* 1. Паказаныя ліміты на 1932 г. распаўсюджваюцца і на няскончаную частку будаўніцтва, пачатага ў 1930 і 1931 годзе.

2) Ліміт кошту паказаных вышэй узбуйненых вымяральнікаў, адносна да найбольш распаўсюджаных у кожным дадзеным раёне тыпаў пабудоў, утвараемых на падставе суровага выкананьня дырэктыў Ураду аб выключэньні ўсялякіх непатрэбнасьцяй як у сэнсе выбару канструкцый частак будынку, дарэмна робячы

яго больш цяжкім, так і ў сэнсе ажыцьцяўленьня нявыкліканых неабходнасьцю абрабляльных работ.

У кошт аднаго кубамэтра павінны ўваходзіць:

а) усе выдаткі па выкананьню сапраўды будаўнічых работ, менавіта: кошт асноўных будаўнічых канструкцый і абрабляльных работ;

б) кошт транспарту матарыялаў у радыусе да 5-ці *клм.* ад складаў, чыгуначных станцый альбо водных прыстаней;

в) усе ўстаноўленыя арганізацыйныя выдаткі, прадугледжаныя законам, незалежна ад часу году, калі ажыцьцяўляецца будаўніцтва. Гэтыя выдаткі складаюць „асноўны“ ліміт.

**Б. Надбаўкі і зніжэньне лімітаў.**

1. Кошт дамоў камун і інтэрнатаў як з паасобнымі памяшканьнямі для жыльля, так і з абагуленымі спальнямі, пры наяўнасьці інш. абагуленых памяшканьняў, вызначаецца па вытворчых каштарысах для арыентыровачных разьлікаў можа быць прынята наступнае зьніжэньне лімітаў:

каменных з паасобнымі памяшканьнямі—на 5 проц.
драўляных з „ „ —на 9 проц.
каменных з абагуленымі спальнямі—на 10 проц.
драўляных з „ „ —на 17 проц.

2. Ліміты кошту аднаго кубамэтра іншага будаўніцтва устанаўляюцца ў параўнаньні з лімітамі кошту кубамэтра жыльлёвага будаўніцтва (арт. 1) наступным чынам:

а) для школьнага сельскага будаўніцтва—на 5 проц. ніжэй, гарадзкога-ж школьнага будаўніцтва—бяз зьмен;

*Увага.* Пры гатовай (дармовой) дастаўленай на месца пабудовы, драўніне—на 25 проц. ніжэй.

б) клюбнага—бяз зьмен;

в) больнічнага хірургічнага і фізыо-тэрапэўтычнага—на 20 проц. вышэй;

г) паліклінік, амбуляторый, ясьляў, навукова-дасьледчых інстытутаў, псыхіатрычных і інш. больніц і санаторый—на 15 проц. вышэй;

д) дамоў адпачынку, кансультацыйных і сэзонных устаноў: мураваных—бяз зьмен, а драўляных—на 3 проц. вышэй;

е) мэханізаваных грамадзкіх сталовак, кухань—на 15 проц. вышэй

ж) сталовак-разьмеркаваццеляў—на 5 проц. ніжэй;

з) іншых грамадзкіх пабудоў—бяз зьмен;

і) грамадзкіх лазьняў і пральняў і цэнтр. пажарн. частак каменных—на 5 проц. вышэй;

к) будынкаў рэзьніц—на 10 проц. ніжэй;

л) гаражоў і пажарных дэпо—на 15 проц. ніжэй;

м) будынкаў тыпу хлебозаводаў—на 10 проц. ніжэй.

3. Ліміты іншых пабудоў, якія не падыходзяць пад пералічаныя ў арт. 2 тыпы, вызначаюцца на падставе вытворчых каштарысаў.

4. У ліміт кошту будаўніцтва ўваходзяць усе выдаткі па правядзеньні будаўнічых і апрацовачных работ, а таксама ўсе арганізацыйныя і накладныя выдаткі бяз прыбытку і рызыкі.

5. Звыш установленых вышэй лімітаў дабаўляецца да асноўнага ліміту:

а) для каменных будынкаў ня звыш 2 паверхаў—5 проц.;

б) „ „ „ „ „ 3 паверхаў—3 проц.:

в) пры пабудове цэнтральнага ацяпленьня і вэнтыляцыі (ацяпленьня 7 проц. і вэнтыляцыі выцяжной без пабудзіцелей—1 проц.) . . . . . . . . —8 проц.;

г) пры пабудове у драўляных будынках вадаправоду альбо каналізацыі:

| | Для аднапаверхавых | Для двухпаверхавых |
|---|---|---|
| Пры пабудове вадаправоду . . | 4,5 проц. | 3,5 проц. |
| „ каналізацыі . . | 4,5 проц. | 3,5 проц. |
| Пры пабудове ў каменных буд. (незалежна ад колькасьці паверхаў) вадаправоду . . . . | 3,25 проц. | — |
| каналізацыі . . . . . | 3,25 проц. | — |

д) за знадворнае далучэньне вадаправоду і каналізацыі ў залежнасьці ад мясцовых умоў, але ня звыш 1/2 проц.;

е) за ўнутраную электраправодку ў будынках—1,5 проц.;

ж) у выпадку пабудовы бальконаў ня менш 50 проц. колькасьці кватэр—да 1 проц.

з) пры пабудове у кожнай кватэры душаў —2,5 проц.;

і) „ „ „ „ „ ванн і душаў—5 проц.

*Увага.* 1) Пры меншай колькасьці ванн альбо душаў проц. дабаўкі адпаведна зьніжаецца.

2) Ставіць ванны дазваляецца ў кватэрах з жылплошчай ня менш 54 м².;

к) у выпадку пабудовы ліфтаў кошт самаго ліфту ў ліміт не ўваходзіць;

л) калі патрэбна ў драўляных будынках зрабіць унутраную атынкоўку альбо знадворную чыстую абшыўку і афарбоўку—па 4 проц.;

м) пры ўвядзеньні ў жылых будынках абсталяваньня паводле новых патрабаваньняў тэхнікі і быту—ад кошту ўсяго будынку альбо абсталяванай часткі:

сьценных шафаў . . . . . . . 1 проц.,
халадзільных шафаў . . . . . 8,5 проц.,
сьмецеправодаў . . . . . . . 0,5 проц.;

н) пры пабудове звычайных асобных знадворных будынкаў і і пакватэрных прыбудоў (сараяў, скляпоў, памыйных ям і ўборных):

для драўляных дамоў—да 7 проц.,
для мураваных дамоў—да 4 проц.;

о) для патрэбнага ўнутранага і знадворнага дабрабыту (плянаваньня плошчы вучасткаў, упарадкаваньня пешаходных сьцежак і тратуараў, агароджы, варот, калітак і г. д.):

для будынкаў ня менш 2 паверхаў — 3,5 проц.;

" " шматпаверхавых — 2,5 проц.;

*Ўвага.* Унутраны дабрабыт—0,5 проц., знадворны для мураваных і драўляных да 2 паверхаў—3 проц., а для шматпаверхавых—2 проц.

6. Ліміты для пабудоў розных відаў палегчанай канструкцыі, з ужываньнем новых будаўнічых матарыялаў, устанаўляюцца з падлікам фактычнага зьніжэньня кошту іх параўнальна з асноўнымі канструкцыямі і падачаю каштарысных вылічэньняў. Для арыентыроўкі для іх устанаўляюцца наступныя ліміты:

а) для шлакабэтоннага будаўніцтва—з паніжэньнем супроць цаглянага—на 3 проц.,

б) для цёплых бэтонаў з паніжэньнем супроць цяглянага будаўніцтва—на 5 проц.,

в) жалезна-бэтонных канструкцый—без паніжэньня,

г) масыўных шлакабэтонных элемэнтаў з запаўненьнем цеплабэтонам—

д) пустацелых шлакабэтонных каменьняў—

е) трэпела-бэтонных—

ж) кладкі па сыстэме Герарда—

з) " з трэпелавай цэглы—

і) " з нармальнае порыстае цэглы ($1^1/_2$ цэг.)—

(г—і) на 3 проц. ніжэй

к) " з пустацелых бэтонных каменьняў—на 5 проц.,

л) кладкі з састаўных каменьняў агнетрывалых канструкцый, з ужываньнем ацепліцеляў у выглядзе гэракліта, торпалеўма і інш. фібралітаў—на 3 проц.,

м) для будынкаў драўляных рубленых з бярвеньняў з агнетрывалымі дахамі, на каменным падмурку з пячным ацяпленьнем без вадаправоду і каналізацыі і без атынкаваньня сьцен—на 10 проц. вышэй;

*Увага.* Гэты від будаўніцтва праводзіцца з асобнага дазволу Наркамгасу.

н) каркасных незасыпных драўляных канструкцый, пакрытых агнетрывалай фарбай—на 5 проц. ніжэй;

о) драўляных стаячых з абліцоўкаю ў $^1/_2$ цэглы з запаўненьнем пустот шлакам, торпам і інш. матарыяламі—па выканаўчых каштарысах;

п) для будаўніцтва з сырцовай цэглы з паніжэньнем супроць будаўніцтва з апаленае цэглы—на 6 проц.

7. Для будынкаў мяшаных канструкцый (часткова каменных, часткова драўляных) ліміты вызначаюцца асобна для каменных частак і асобна для драўляных паводле ўстаноўленых для кожнага роду будаўніцтва норм.

8. Кошт першапачатковага рамонту, патрэба якога зьявілася з прычыны ўжываньня сырога лесу, а таксама кошт асадачнага рамонту ў паказаныя ліміты ня ўключаны.

Ацэнка кошту гэтых работ устанаўляецца дадаткова да норм агульнага кошту, але ў разьмеры ня звыш $1^1/_2$ проц. для каменных будынкаў і 2 проц. для драўляных.

9. Ліміты для сутарэньняў без вакон у шматпаверхавых дамох, абсталяваных катламі цэнтральнага ацяпленьня і драўлянымі сараямі (пры наяўнасьці драўляных кухонных ачагоў), вызначаюцца ў разьмеры 70 проц. агульнай ацэнкі кубамэтра асноўнай пабудовы, прычым абсталяваньне будынкаў кацельнымі памяшканьнямі, для дроў і інш. у сутарэньні дазваляецца выходзячы з разьлікаў плошчы апошніх, напрыклад: па 4—8 *кв. мэтр* на кожную кватэру.

10. Калі ў паўсутарэньнях будуюцца жылыя памяшканьні, а ў сутарэньнях клюбы, сталоўкі, ванныя, пральні, абсталяваньне цэнтральнага ацяпленьня з поўнай унутранай абробкай на тыпу верхніх паверхаў жылога дому, то ліміты для іх устанаўляюцца на норме ўсяго жылога дому бяз зьніжэньня за выключэньнем толькі кацельнай, кошт якой вызначаецца паводле арт. 9.

11. Знадворныя лесьнічныя клеткі з дашчатымі сьценамі расцэньваюцца ў 50 проц. ліміту самага будынку.

12. Кубатура будынкаў вызначаецца памнажэньнем плошчы будынку па знадворнаму абводу першага паверху (вышэй цокалю) на вышыню будынку, лічачы вышыню ад сярэдняй адзнакі натуральнай паверхні зямлі, якая прылягае да пэрымэтру будынку, да падлогі падстрэшнага памяшканьня, пры адсутнасьці сутарэньня і пры вышыні цокалю ня больш 0,7 *мтр.*

*Увага.* 1) Пры наяўнасьці сутарэньня або паўсутарэньня вышыня іх вымяраецца ад падлогі да сярэдняй адзнакі натуральнай паверхні зямлі, а вышыня самога будынку лічыцца ад тэй жа сярэдняй адзнакі натуральнай паверхні зямлі да падлогі падстрэшнага памяшканьня.

2) Ліміты для мансарднага паверху устанаўляюцца як для драўляных будынкаў і аб'ём яго вызначецца памнажэньнем плошчы па знадворнаму абмеру сьцяны яго на сярэднюю вышыню ад падлгогі да верхняй плошчы перакрыцьця.

3) Кубатура цёплых часьцей будынку, якія выступаюць вышэй першага паверху, уключаецца ў агульны аб'ём будынку.

4) У драўляным будаўніцтве знадворныя лесьвічныя клеткі і інш. халодныя будынкі ў абшыўных сьценах у кубатуру будынку ня ўключаюцца.

13. Ровень падлогі першага паверху, пры адсутнасьці паўсутарэньня або сутарэньня павінен быць ня вышэй 70 *см* сярэдняй адзнакі паверхні зямлі, якая прылягае да пэрымэтру будынку, але ня ніжэй 30 *см* ад вышэйшай адзнакі. Калі патрэбна ў зьвязку з вялікімі спадамі, пабудаваць цокаль вышэй 70 *см* ад сярэдняй адзнакі, нормы захоўваюць сілу пры ўмове вызначэньня кубатуры будынку з разьліку ўмоўнай вышыні цокалю ў 70 *см.*

14. Пры вызначэньні лімітаў кошту аднаго кубамэтра жыльлёвага будаўніцтва прыняты пад ўвагу наступныя ўмовы:

а) вышыня жылога памяшканьня ад падлогі да столі прынята ў 3 *мтр.*

б) таўшчыня перакрыцьцяў—0,35 *мтр*;

в) вышыня цокалю—0,70 *мтр* (гранічная);

*Увага.* Пры меншай вышыні памяшканьняў жылых дамоў асноўныя ліміты павялічваюцца на 1,5 проц. на кожныя 10 *см.* памяншэньня вышыні супроць 3 *мтр.*

15. Запрапанаваць усім будуючым і будаўнічым арганізацыям, дзяржаўным каперацыйным і акцыйным таварыствам з пераважным удзелам дзяржаўнага і каперацыйнага капіталу, ужыць патрэбныя захады, каб фактычны кошт будаўніцтва 1932 г. не перавышаў паказаных вышэй норм.

16. У выпадку, калі па незалежных ад бударганізацыі прычынах будзе выклікацца неабходнасьць некаторага падвышэньня устаноўленага гэтай пастановай ліміта, гэта падвышэньне павінна быць давердзена канкрэтнымі тэхнічнымі разьлікамі і санкцыяй Дзяржаўнага Арбітра.

17. У паасобных выпадках, пры наяўнасьці асабліва ільготных умоў для данага будаўніцтва, не прадугледжаных законам (напрыклад, атрыманьне на ільготных умовах матарыялаў, рабочай сілы, перавозных сродкаў і інш.) устаноўленыя нормы кошту, а таксама разьмеры крэдытаваньня павінны быць адпаведна зьніжаны.

**В. Тэхнічнае апісаньне работ па грамадзянскаму будаўніцтву для кіраваньня пры ўжываньні лімітаў кошту аднаго кубамэтра непрамысловага будаўніцтва па БССР на 1932 год і правілы іх ужываньня.**

## 1. Агульныя палажэньні.

А. Зацьверджаныя ліміты зьяўляюцца асноўнымі расцэнкамі кошту аднаго кубамэтра ўсякага роду будынкаў па грамадзянскаму будаўніцтву.

Б. У аснову паказаных лімітаў узят кошт аднаго кубамэтра звычайнага тыпу жылога будынку, пабудаванага паводле запатрабаваньняў будаўнічай тэхнікі і паказаных ніжэй тэхнічных ўмоў, з мясцовых будаўнічых матарыялаў.

В. Пры вызначэньні агульнага кошту аднаго кубамэтра будынку да асноўных лімітных расцэнак папярэдне дабаўляюцца або зьнімаюцца процанты, паказаныя ва ўвазе да артыкулу 14, калі яны павінны ўжывацца, і на зьменены ліміт робяцца ўсе астатнія надбаўкі або зьмяншэньні, якія паказаны ў арт. арт. 2—8, прычым процантныя налічэньні на рызыку і прыбытак бударганізацый дадаюцца пасьля выяўленьня сумарнага лімітнага кошту аднаго кубамэтра.

Г. Устаноўленыя ліміты прыняты пры чыстай вышыні памяшканьняў ў 3 *мтр.* для жыльлёвага будаўніцтва з асобымі кватэрамі, пры іншай вышыні ўстаноўленыя асноўныя ліміты павялічваюцца паводле ўвагі да арт. 14.

Для будаўніцтва асобнага прызначэньня ўвага да арт. 14 не пашыраецца нават ў тых выпадках, калі вышыня ў 3 *мтр.* павялічваецца або зьмяншаецца.

Д. Устаноўленыя ліміты ахапляюць выкананьне работ і ўжываньне матарыялаў ў тых межах, якія ўстаноўлены дырэктыўнымі органамі, рэгулюючымі будаўніцтва.

## II. Тэхнічныя нормы.

А. Па ўстаноўленых лімітных расцэнках аднаго кубамэтра будынку будаўнічыя арганізацыі робяць:

1) пляніроўку пляцу навакол мяркуемага будынку на 2 *мтр.* і пад самым будынкам,

*Увага.* Пад пляніроўкай вучастку трэба разумець зьняцьце невялікіх бугроў, засыпку невялікіх ям, вырубаньне кустарніку і правядзеньне звычайных сьцёкаў для дажджавой вады.

2) копку катлаванаў ў звычайным або у глінiстым грунце без вадаадліву пры глыбіні ў сярэднім да 1,5 *мтр,* з устаноўкай ашчытоўкі для папярэджаньня абвалу зямлі, калі гэта па ўмовах грунту будзе патрэбна;

3) кладку фундамантаў вышынёю ў сярэднім да 1,5 *мтр* з булыжнага або бутавага каменьня, шырынёю паводле статычнага разьліку пры вышыні будынкаў да 3 паверхаў—на вапнавым растворы і на мяшаным—1 : 1 : 12—пры большай вышыні будынкаў;

4) кладку сьцен з цэглы шырынёю паводле статычнага разьліку і абавязкова на вапнавым растворы.

*Увага.* На мяшаным або цэмэнтавым растворы павінна праводзіцца кладка асобных элемэнтаў, дзе гэта будзе выклікана разьлікам альбо канструкцыйнымі меркаваньнямі.

5) паміжпаверхавыя перакрыцьці драўляныя без пакатаў агульнай таўшчынёю ня звыш 35 *см,* якія складаюцца з драўляных балек, падшыўкі столі з дошак таўшч. ў 37 *мм,* лёгкай абмазкі і ўкладкі на бальках падлогі з дошак не шпунтаваных таўшчынёй 50 *мм.* на шыпах, або шпунтаваных таўшч. 37 *мм.,* з прыбіўкай ў абодвых выпадках плінтусаў і галцеляў стандартнага тыпу;

6) пераборкі ў мураваных будынках для выдзяленьня пакояў асобных кватэр—з дошак таўшчынёю 50 *мм.* з атынкоўкай з абодвых бакоў, а пераборкі для аддзяленьня кватэр аднае ад другой—абшыўныя з атынкоўкай па толю або лямцу пры таўшчыні дошак ня звыш 25 *мм.* Атынкоўка драўляных будынкаў ў асноўныя ліміты не ўваходзіць;

*Увага.* Замест драўляных пераборак, атынкаваных з абодвых бакоў, апошнія могуць быць зроблены іншай канструкцыі: амэрыканскага тыпу (рэечныя), фібралітавыя, алебастракамышовыя і г. д.

7) атынкоўку мураваных сьцен—вапнавую, з драўляных канструкцый—вапнава-алебастравую пад правіла і з падугай у столі;

8) вокны, дзьверы, лесьніцы, падваконьнікі—стандартнага тыпу і разьмераў па ўстаноўленых нормах. Ваконныя і дзьвярныя прылады —чорна-лякіраваныя;

9) афарбоўку сьцен і столі—клеевую у дзьве фарбы без трафарэта але з адбіўкай калёўкі;

10) шкленьне—з звычайнага шкла на падвойным кітаваньні;

11) перакрыцьці ў прыбіральнях, ванных і душавых пакоях, на пляцоўках лесьніц—воданепрапушчальныя з пакрываньнем цэмэнтаваю змазкаю з жалязьненьнем, або цэмэнтавымі плітамі;

12) парэнчы на бэтонных альбо мураваных лесьніцах—жалезныя простага рысунку з драўлянымі поручнямі, адшліфаванымі і закругленымі на паваротах;

13) дах—з агнетрывалых матарыялаў;

14) афарбоўку падлогі, сталярных вырабаў, даху—адзін раз з папярэдняй пралiўкай;

15) прылады для апалу—радзіатары ў жылых пакоях і рэбрыстыя—у няжылых памяшканьнях.

*Увага.* Устаноўленыя працантныя налічэньні пры пабудове цэнтральнага ацяпленьня робяцца пры ўмове пабудовы кацельнай у сутарэньні будынку, што будуецца.

Б. Пры пабудове ў будынку вадаправоду і каналізацыі будаўнічая арганізацыя павінна ўстанавіць пажарны трубапровод, фаянсавыя клазэты з бачкамі і чыгунныя эмаліраваныя ўмывальнікі і ракавіны з звычайнымі кранамі.

*Увага.* Гарачае вадаснабжэньне і прыстасаваньне да супроцьпажарнага трубапроводу аплачваюцца асобна. Пры ўстаноўцы ванны ўмывальнікі не ўстанаўліваюцца.

Калі будуюцца ванны, то яны ўстанаўліваюцца чыгунна-эмаліраваныя з абсталяваньнем, як: краны, зьмешвацелі, душы і вадагрэйныя калонкі, пры дагаворанасьці старон—гарачае вадаснабжэньне для ванны можа быць зроблена непасрэдна з кухні, з абсталяваньнем у пліце спэцыяльнай арматуры, альбо з кацельнай устаноўкі пры ўмове ўстаноўкі асобнага катла.

В. Кладка фасадных сьцен робіцца з адборнай цэглы з расшыўкай альбо з падрэзкай швоў, абмыўкай фасадаў і афарбоўкай клееваю фарбай.

Г. Калі ў будынках устанаўліваецца пячны апал, то печы будуюцца кахляныя і цагляныя з абліцоўкай неглазураванаю кахляю.

Д. Электрычнае асьвятленьне праводзіцца адкрытаю праводкай, апроч выпадкаў, дзе асобнай інструкцыяй патрабуецца праводка з павышанай ізаляцыяй.

Старшыня Дзяржаўнай Плянавай Камісіі
пры СНК БССР **Шапіра.**

Начальнік Будаўнічага Сэктара
ДПК БССР **Штыфман.**

7 красавіка 1932 г.

